Пр. К а в а л ь

# С Л У Ц К І      Ф Р О Н Т

## КАРОТКІ ГІСТАРЫЧНЫ НАРЫС СЛУЦКАГА ЎЗДЫМУ

## I 9 I 7   –   I 9 2 I.

ЛЁНДАН      I967.

# КАБ НЕ ЗАРАСТАЛА ЛАЗОЮ ПРАДЗЕДАЎ СЛАВА

Між усімі матэрыяльнымі і духовымі скарбамі, якія падымаюць годнасьць і веліч народу, найбольшую вартасьць маюць тыя, якія сталіся коштам вялікіх ахвяраў. Да такіх скарбаў у гісторыі беларускага народу належыць Слуцкі збройны чын, папулярна званы Слуцкім Паўстаньнем у абароне незалежнасьці Беларусі. І так як агонь - тымбольш грэе, чым больш разгараецца, падобна і гістарычныя падзеі; яны тымбольш акрыляюць людзкі дух, чым лепш іх пазнаём. Таму варта пазнаць дакладней гісторыю векапомнага гэройскага Слуцкага Чыну.

Сам Слуцкі збройны чын, як і ягоная доля і памяць аб ім даволі дзіўныя. У часе самога ўздыму з ім салідарызаваліся ўсе тагачасныя беларускія нацыянальныя, грамадзкія і вайсковыя арганізацыі. Але пасьля здушэньня паўстаньня настала заціша, падобнае да забыцьця, хоць аб той падзеі была прынята прыгожая пастанова на нарадзе беларускіх арганізацыяў у Празе ў 1921 г. Калі-ж у 1930 г. случчак Бусел прыехаў у Вільню і зьявіўся да беларускіх студэнтаў, каб азначыць 10-ыя ўгодкі Слуцкага Паўстаньня, дык выявілася, што ніхто з беларускіх студэнтаў нічога ня ведаў аб гэтай падзеі. У беларускіх Гімназіях у Вільні і Навагрудку ў тым-жа часе хоць пару разоў прынагадна ўспаміналася аб патрэбе ўшанаваць чын слуцкіх гэрояў, але нідзе нельга было знайсьці ніякіх вестак аб той падзеі.

У наступным 1931 г. Буслу ўдалося наладзіць у Вільні ўрачыстасьць у чэсьць 11-ых угодкаў Слуцкага Паўстаньня з дапамогаю моладзі, даючы ёй адпаведныя інфармацыі. Тады на старонках беларускае пэрыядычнае прэсы пачалі зьяўляцца кароткія артыкулы аб самой падзеі і аб яе ўдзельніках. Але толькі пасьля другое сусьветнае вайны і толькі на эміграцыі пачалі належна азначаць угодкі гэройскага выступленьня случчакоў у абароне незалежнасьці Бацькаўшчыны.

Нажаль да гэтага часу, хоць яшчэ жывуць некаторыя ўдзельнікі таго векапомнага ўчынку, няма ніводнае паважнае публікацыі аб ім. Большасьць артыкулаў, якія да гэтага часу зьявіліся на старонках беларускае прэсы на эміграцыі, мала што дадаюць да таго, што падаў Найдзюк у кнізе "Беларусь учора і сяньня." Архівы-ж паўстаньня, якія ў большасьці былі ў Музэю ім.Луцкевіча ў Вільні, цяпер невядома дзе.
Аднак сабраўшы разам кароткія ўспаміны ўдзельнікаў і кароткія зацемкі, якія зьявіліся ў друку і тыя весткі, якія

аўтару гэтых радкоў было магчыма пачуць ад удзельнікаў - можна пазнаць даволі добра гісторыю і значэньне Слуцкага Паўстаньня. Магчыма так-жа гэтая невялікая публікацыя заахвоціць тых людзей, якія знаюць лепш гісторыю гэтае падзеі, сказаць сваё слова.

---

## БЕЛАРУСЬ МІЖ ДВУМЯ ФРОНТАМІ

Калі пад напорам усенароднага гневу, выклІканага царскаю тыраніяю, развальвалася царская Расейская Імпэрыя, дык усе больш арганізаваныя народы з тае імпэрыі імкнуліся ствараць свае незалежныя дзяржавы. Але на руінах калішняе Расейскае "турмы народаў" замацоўвалася новая тыранская ўлада ў форме Савецкае Расеі з дыктатарскім кіраўніцтвам бальшавіцкае камуністычнае партыі. Бальшавікі, абвесьціўшы на словах прыгожы кліч, што кожны народ можа самаазначыцца і нават зусім адзьдзяліцца ад Расеі, у сапраўднасьці ўсімі сіламі стараліся захапіць і паняволіць якнайбольш народаў. Таму большасьць з новапаўсталых рэспублікаў на абшары былшае Расейскае Імпэрыі знайшлася пад загрозаю новага і яшчэ больш жарстокага паняволеньня - між імі была і Беларуская Народная Рэспубліка.

У сьнежні I918 г. немцы адыходзілі з Беларусі; 9.XII яны пакінулі Менск. На кароткі час урад БНР стаў поўным гаспадаром у сваёй сталіцы. Але з усходу ішлі бальшавіцкія войскі. Беларускія вайсковыя адзьдзелы, якія былі ў Менску, былі за слабыя, каб супрацьставіцца бальшавіцкай арміі. Беларуская Цэнтральная Вайсковая Рада, створаная яшчэ 3.XI.I9I7 г. у Менску, да гэтага часу не магла належна разгарнуць свае дзейнасьці, бо з невядомых прычынаў царскі галоўны вайсковы штаб быў так разьмясьціў войскі, што ўсе адзьдзелы, дзе быў паважны працэнт беларусаў, знайходзіліся далёка ад Беларусі; або ў Румыніі, або аж у Сібіры. Праўда, пасьля рэвалюцыі там крыху праводзілася так званая беларусізацыя некаторых вайсковых частак і ў Румыніі ўжо была створана I00.000 беларуская армія, але румыны катэгарычна адмовіліся прапусьціць яе праз сваю граніцу. У Менску-ж знайходзіўся толькі кіраўнічы цэнтр з невялікімі вайсковымі адзінкамі, ды і тыя былі спаралізаваныя прапагандаю, каб "не разьліваць братняе крыві", хоць якраз той "брат" рыхтаваўся ня толькі разьліць іхнюю кроў, але і зусім задушыць іх.

Перад прыходам бальшавікоў урад БНР пакінуў Менск і затрымаўся некаторы час у Вільні, потым у Горадні - адтуль выехаў за граніцу.

Бальшавікі займалі Беларусь і адразу пачыналі заводзіць свае парадкі, але не надоўга, бо вясною 1919 году выбухла польска-бальшавіцкая вайна. Палякі, маючы ад антанты добрае аружжа, паціснулі бальшавікоў далёка на ўсход, займаючы вялікую частку Беларусі; 8.VIII яны занялі Менск. Але паводля Вэрсальскага міру з 28.VII.1919 для Польшчы была вызначана на ўсходзе граніца па так званай лініі Курзона, якая прайходзіла каля Беластоку. Таму што палякі занялі вялікі простор на ўсход ад тае лініі, дык галоўнакамандуючы польскага войска Я.Пільсудзкі, каб апраўдаць акупацыю беларускага абшару, выдаў адозву да бытых грамадзян Вялікага Літоўскага Княства, кажучы, што польская армія прыйшла на гэтыя землі, каб змагацца "за нашую і вашую вольнасьць".І адразу-ж польскае ваеннае камандаваньне пачало тварыць так званую Польска-Літоўскую дывізію; і стварылі яе амаль выключна з беларусаў, але афіцэры ў ёй былі толькі палякі. Затое Беларускі полк у Горадні, які быў створаны беларусамі ў паразуменьні з немцамі і летувісамі, палякі адразу-ж разброілі (I.VI.1919). Такім чынам адразу-ж выявілася крывадушнасьць польскага вайсковага кіраўніцтва адносна Беларусі і адносна ўсяго абшару калішняга Вялікага Літоўскага княства.

Аднак заява Пільсудзкага шмат каго з беларускіх дзеячоў увяла ў зман. Нават некаторыя сябры Рады БНР былі схіліліся ў польскі бок. І між імі былі такія асобы, як: Уласаў, Луцкевіч, Лёсік, Тарашкевіч, Серада, Рак-Міхайлоўскі, Смоліч і інш. У Радзе зьявіліся паважныя разыходжаньні, якія давялі да поўнага расколу і ўтварэньня палянафільскае Найвышэйшае Рады. Але і ў дачыненьні да гэтае Рады адносіны палякаў былі ня шмат лепшыя, як да Рады БНР. Яны дазволілі ёй стварыць Вайсковую Камісію, але на мэмарандум тае Камісіі з дамаганьнем утварыць беларускія вайсковыя адзьдзелы, доўгі час не давалі ніякага адказу. Толькі калі 22.X было ўжо закончана фармаваньне з беларусаў Польска-Літоўскае дывізіі і калі ўжо больш не зьяўляліся дабравольцы, тады зьявіўся дазвол на ўтварэньне беларускіх адзьдзелаў, але толькі з дабравольцаў.

З іншага боку расейскія бальшавікі і адкрытым і падступным спосабам няспынна стараліся ня толькі запанаваць на Беларусі, але так-жа ўсякімі спосабамі спараліжаваць дзейнасьць Беларускае Народнае Рады. З гэтаю мэтаю была ўтворана Савецкая Беларусь, як аб гэтым выразна кажа У.

Ігнатоўскі:"Сярод разгляду пытаньняў выявілася, што беларускае нацыянальнае адраджэньне значна шагнула ўперад за часоў рэвалюцыі і нямецкае акупацыі. Трэба ў далейшай працы партыі гэтага не забывацца. Лічыць патрэбным, выявіць беларускае нацыянальнае пытаньне; утварыць грунт для Беларускае Савецкае Рэспублікі і такім спосабам выбіць грунт з-пад ног Рады Беларускае Народнае Рэспублікі і ўзяць беларускае нацыянальнае пытаньне ў рукі кампартыі".

Але, відаць, таму што бальшавіком удалося даволі лёгка заняць Беларусь, дык роўна месяц пасьля абвешчаньня Савецкае Беларусі – 2-га лютага 1919 г. бальшавікі адарвалі ад гэтага свайго новатвору аж тры губэрні: Смаленскую, Магілёўскую і Віцебскую і так абкарнаную Савецкую Беларусь злучылі з Летувіскаю Савецкаю Рэспублікаю, утвараючы так званы Літ-Бел ССР. Гэтае злучэньне афіцыяльна аформлена 27-га лютага. Калі-ж некаторыя з беларускіх камуністаў, якія перш займалі становішчы камісараў, спрабавалі запратэставаць супраць гэткага дзеяньня, дык Мясьнікаў(Мартуні) першы сакратар камуністычнае партыі Белаорусі, іх арыштаваў. Калі-ж польскія войскі пасьля адагналі бальшавікоў за Беразіну дык нават і тая фікцыя Літ-Белу распалася зусім, выклікаючы самазразумелае незадаваленьне нават і ў прабальшэвіцка настроеных кругох камунізуючае жменькі беларусаў. Такі заўзяты бальшавік, як Кнорын Вільгэльм(латыш), пішучы аб тых падзеях, мусіў прызнацца: "Гэтая вялікадзяржаўная тактыка кіруючай групы працаўнікоў першага Беларускага Савецкага ўраду адпіхнула частку беларускіх камуністаў і зрабіла перашкоду далейшаму разьвіцьцю і замацаваньню зьвязкоў партыі з масамі працоўных сялян".(Кнорын у часапісе "Беларусь" за 1924 г. с.220).

Калі-ж летам 1920 г. бальшавікі разьбілі палякаў, занялі зноў Беларусь і накіраваліся на Варшаву, дык спатрэбілася ўжо трэцяе з чаргі абвешчаньне Савецкае Беларусі – 31.VII. у разьмерах ўсяго толькі часткі аднае калішняе Менскае губэрні. Цяпер бальшавікі стараліся насьпех усюды ствараць сваю цывільную ўладу. Гэтае заданьне выконваў Рэвалюцыйны Савет Заходняга Фронту. Тады шмат дзе праявіўся беларускі супраціў бальшавіком. Між новапасаджанымі ўладамі і беларускім жыхарствам мелі мейсца частыя сутычкі. Ды наагул між беларусаў было так мала прыхільнікаў камунізму, што Рэвалюцыйны Ваенны Савет зьвярнуўся ў Маскву і Петраград, каб адтуль прыслалі камуністычныя кадры для Беларусі. І тыя не замарудзілі выканаць гэную просьбу. Але гэтыя сіламоц

насаджаныя бальшавіцкія верхаводы выклікалі незадаваленьне беларускага насельніцтва. Атмасфэра ўсьцяж накальвалася. I вось тады мела сказаць сваё асаблівае слова Случчына.

## СЛУЧЧЫНА МАБІЛІЗУЕЦЦА

Для ўсяго беларускага актыву было ясным як дзень, што без свайго войска немагчыма здабыць незалежнасьці Беларусі. Усе вышэйуспомненыя падзеі аднагодна сьведчылі, што без асаблівага і ахвярнага высілку нельга спадзявацца на якіясь паважныя вынікі ў вызвольным змаганьні.

Случчына была адною з багацейшых і найбольш сьведамых беларускіх правінцыяў і пры тым была параўнаўча спакойнаю і недалёкаю ад Менску. Адразу пасьля абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў Слуцку ў быў створаны Беларускі Нацыянальны Камітэт на чале з Паўлам Жаўрыдам, а сьледам за тым была зарганізаваная беларуская адміністрацыя. Праўда, вясною 1919 г. бальшавікі на кароткі час стварылі ў Слуцку рэўком і зарганізавалі "Сводный Слуцкий Батальон", беларускі нацыянальны актыў хутка апанаваў той Батальён і выступіў з ім супраць бальшавікоў. Каб зьліквідаваць тое выступленьне і ўвесь батальён з Менску прыяжджаў у Слуцк спэцыяльны адзьдзел чэ-ка. Пасьля гэтага зноў быў утвораны Слуцкі Рэўком, які пачаў складаць сьпіс усіх слуцкіх жыхароў мужчын, мяняць усе назовы вуліцаў і шыльды ўстановаў з беларускіх на расейскія. Але гэта трывала нядоўга.

Польска-бальшавіцкая вайна на абшары Беларусі, якая выбухла на пачатку лютага 1919 г. і некалькіразовыя зьмены акупацыйных уладаў, лішні раз паказалі беларускім дзеячом, што нашыя суседзі лічыліся і будуць лічыцца толькі з вайсковаю сілаю. Таму беларуска-рэвалюцыйны актыў у Слуцку ўжо вясною 1920 г. пляінаваў збройнае паўстаньне і нават намячаў дату 10-га ліпеня 1920 г., спадзяючыся, што ў тым часе бальшавікі будуць моцна занятыя вайною з палякамі. Быў апрацаваны плян паўстаньня, які вызначаў зборку беларускіх вайсковых адзьдзелаў у ваколіцах Грозава і Старыцы, дзе былі вялікія лясы. Адтуль так-жа лясамі праз Узду было найлягчэй дайсьці да Менску. Аднак цывільная частка Слуцкага Камітэту радзіла пачакаць з выступленьнем, спалохаўшыся пераможнага маршу савецкае арміі на захад. У часе таго паходу бльшавікоў на Варшаву ў бальшавіцкіх верхаводаў кружылася ў галаве ад перамогаў і яны ў тым часе нішчылі ўсе беларускія нацыянальныя арганізацыі і ўстановы. Тады ў Слуцку быў

разьвязаны Беларускі Камітэт, а ягоны старшыня П.Жаўрыд арыштаваны. У іншых гарадох Беларусі тварылася тое самае.

Летам 1920 г. палажэньне раптоўна зьмянілася. Уканцы жніўня бальшавікі былі разьбіты пад Варшаваю і сьпешна адступалі на ўсход. Палякі зноў занялі вялікі абшар Беларусі. У гэтым часе П.Жаўрыду ўдалося ўцячы з савецкае турмы. Ён вярнуўся ў Слуцк і аднавіў Беларускі Камітэт ды зарганізаваў беларускую міліцыю ў складзе 500 чалавек.

Гэтым разам палякі захоўваліся на Беларусі больш нахабна чым раней. Запанавала самаволя легіяністаў і абшарнікаў. Яны нават ня вельмі лічыліся з Антантаю і супраць яе волі занялі Віленшчыну, выдумаўшы для замыльваньня вачэй бунт гэнэрала Жэлігоўскага. Дык нічога дзіўнага, што ў Слуцку палякі рознымі інтрыгамі адсунулі з Беларускага Камітэту П.Жаўрыда, пасадзіўшы на ягонае мейсца палянафіла д-ра Паўлюкевіча, прыдаўшы яму да помачы такога-ж палянафіла Алексюка.

Беларуска-рэвалюцыйны актыў Случчына прыціх, але ўважна сачыў за падзеямі. А падзеі на фронце ішлі непрадбачанымі каляінамі. На пачатку кастрычніка 1920 г. наступіла між палякамі і бальшавікамі часовае замірэньне. 12.X быў падпісаны дагавор аб перамір'і і ў Рызе пачаліся перагаворы аб міру. Хоць самыя перагаворы цягнуліся вельмі доўга, але хутка была намечана дэмаркацыйная лінія Кіевічы - Лань, якая потым з невялікімі зьменамі мела рэзаць на працягу 19 гадоў жывое цела Беларусі.

Таму што абодва ваюючыя бакі былі паважна зьнясілены вайною і мелі іншыя паважныя клопаты, дык беларускі актыў у Слуцку пастанавіў выкарыстаць гэты час, каб пазбыцца акупантаў.

На пачатку кастрычніка польскія войскі пачалі адыходзіць да дэмаркацыйнае лініі за Лань і быццам на кпіны з беларускае міліцыі ў Слуцку, пакінулі ёй 300 карабінаў, з якіх 200 мела розныя дэфэкты, а 100 нават ня мела мушкаў. Бальшавікі ня ўсьпелі йсьці сьледам за палякамі і таму Случчына знайшлася пад уладаю Беларускага Нацыянальнага Камітэту.

Час быў вельмі крытычны. Вось-жа каб вырашыць долю краю пад націскам актыву Камітэт склікаў на 14-га лістапада 1920 г. Зьезд Случчыны. Сабралася 107 дэлегатаў з 15 паветаў Случчыны і прыехалі прадстаўнікі ад: Беларускае Нацыянальнае Рады, ад Найвышэйшае Рады і нават ад гэн.Булак-Балаховіча. Прадстаўніком і адначасна камісарам ад БНР быў калішні старшыня слуцкага Беларускага Камітэту П.Жаўрыд.

Зьезд ардаву адсунуў ад кіраўніцтва д-ра Паўлюкевіча і перадаў кіраўніцтва Зьездам у рукі беларусаў незалажнікаў. Старшынёю Зьезду быў абраны Васіль Русак, а ягоным заступнікам судзьдзя У.Пракулевіч. Праца Зьезду прайходзіла ў дзелавым узьнятым настроі. Калі прамаўляў камісар БНР П.Жаўрыд, дык з салі паседжаньня выдалена Паўлюкевіча, каб ня было ніякіх непатрэбных інцыдэнтаў. На другі дзень свае працы Зьезд выбраў Раду Случчыны ў складзе I7 чалавек, як часовае кіраўніцтва Случчыны на чале з У.Пракулевічам. У тым-жа дню была прынятая рэзалюцыя, якая была быццам праграмаю дзейнасьці Рады. У ёй гаварылася: "Першы Зьезд Случчыны, скліканы ў ліку I07 асобаў, вітае Найвышэйшую Раду Беларускае Народнае Рэспублікі і заяўляе, што ўсе свае сілы аддасьць на адбудову Бацькаўшчыны, катэгарычна пратэстуе супраць заняцьця нашае Бацькаўшчыны чужынцамі і самазванчымі савецкімі ўладамі. Хай жыве вольная, незалежная Народная Беларуская Рэспубліка ў яе этнаграфічных межах!"

Рада Случчыны, стаўшыся часовым урадам Случчыны, адразу прыступіла да арганізацыі збройных сілаў. Базаю для тварэньня арміі служыла беларуская міліцыя. Туды адразу пачалі набіраць афіцэраў і падафіцэраў. Але з усіх афіцэраў, якія знайшліся ў радох случчакоў, толькі адзін Гаўрыловіч меў рангу падпалкоўніка; іншыя былі ў рангах капітанаў і паручнікаў. Пры тым ніхто з іх ня меў вышэйшых ваенных школаў, але затое ўсе яны мелі добрую ваенную практыку на франтох і за малым выняткам, былі шчырымі патрыётамі.

Адначасна з арганізацыяю арміі вялася паважная дыплёматычная дзейнасьць. Адразу-ж была выслана дэлегацыя ў Польшчу ў складзе: капітан Адамовіч, Лявіцкі, Аляксюк і Р.Астроўскі. Дэлегацыя мела на мэце атрымаць помач у зброі і дабіцца дазволу фармаваць беларускія вайсковыя адзьдзелы на тэрыторыі Заходняе Беларусі. Дэлегацыя адразу паехала ў Лодзь, дзе тады знайходзілася Беларуская Вайсковая Камісія. Там, дапоўніўшы склад дэлегацыі прадстаўнікамі Камісіі, неадкладна паехалі ў Варшаву да прам'ер міністра і да начальніка польскага гэнэральнага штабу гэн. Развадоўскага. Але на вялікі жаль палякі адмовіліся даць помач, тлумачачы сваю адмову тым, што бальшавікі могуць даведацца аб якой-бы то ні было помачы з іхняга боку і гэта можа спрычыніць сарваньне замірэньня, якое ў сваю чаргу магло-б давесьці зьнясіленую вайною Польшчу да неаблічальных вынікаў. Адно, што абяцаў Развадоўскі, гэта неафіцыяльна дапамагчы перакінуць у індывідуальным парадку вайскоўцаў беларусаў, якія былі ў Лодзі,

на Случчыну. Аднак і гэтае дробнае абяцаньне ня было выкана. Наадварот, былі паважныя перашкоды ў падарожжы.

Адначасна, бо 21.XI была выдана дэклярацыя, у якой між іншым гаварылася: "У мамэнт самавызначэньня ўсіх народаў і змаганьня за сваю самастойнасьць і свабоду, Беларуская Рада Случчыны выконвае волю сялянства, паслаўшага яе і даверыўшага ёй абарону незалежнасьці нашае бацькаўшчыны Беларусі, заяўляе ўсяму сьвету аб дамаганьнях, намерах беларускага сялянства, аб тым, што Беларусь павінна быць вольнаю, незалежнаю Рэспублікай у яе этнаграфічных межах. Абвяшчаючы аб гэтым і зьяўляючыся выразіцелем волі народу, Слуцкая Рада дэкляруе цьвёрда стаяць за незалежнасьць роднае Беларусі і бараніць інтарэсы сялянства ад гвалту з боку чужаземных захопнікаў і ў выпадку патрэбы нават сілаю аружжа, ня гледзячы на лічбовую перавагу ворага, думаючы, што наша справа - справа праўдзівая, а праўда заўсёды закрасуе!"

Гэтая дэклярацыя адносілася да ўсіх суседзяў, але ў першую чаргу да бальшавікоў, але яны не зьвярнулі на яе ніякае ўвагі. Іхняя армія паволі пасоўвалася на захад. Тады на прапанову некаторых сяброў Рады, якія яшчэ верылі ў бальшавіцкі лёзунг самавызначэньня народаў, была выслана да перадавых бальшавіцкіх адзьдзелаў спэцыяльная адозва, у якой высьнялася, што Случчына хоча быць незалежнаю, як непадзельная частка Беларускае Народнае Рэспублікі. Але і на гэтую адозву яны не зьвярнулі ўвагі. Тады Рада Случчыны выслала пратэст Радзе Народных Камісараў СССР і адначасна -

абвесьціла мабілізацыю ўсіх тых, хто мог насіць аружжа. Пры Радзе было створана Галоўнае Вайсковае Камандаваньне.

На заклік Рады Случчыны адгукнулася ўсё насельніцтва Случчыны. Паводля аднагоднага сьведчаньня ўсіх случчакоў, мабілізацыя выклікала нячуваны да гэтуль на Беларусі нацыянальны і маральны ўздым. Мужчыны і юнакі з кайстрамі за плячыма бадзёра сьпяшаліся ў Слуцк, хоць усе ведалі, што туды зьбліжаецца вораг. Як звычайна, змабілізаваных праводзілі далёка за вёску жанчыны і дзеці, але нідзе ня было чуваць ні нараканьня, ні плачу. Наадварот, часта можна было пачуць падбадзёрваючыя заклікі: "Трымайцеся хлопцы!" Дзяўчаты адразу пачалі зьбіраць тонкі кужаль на бінты, а старэйшыя сяляне зьбіралі харчы.

## У БОЙ ЗА СЛАВУ І ЗА ВОЛЮ НАРОДУ РОДНАГА СВАЙГО

Таму што бальшавікі ўжо набліжаліся да Слуцку і ня было калі сварыць абарону места, дык вайсковае камандаваньне

выдала загад міліцыі і ўсім змабілізаваным пакінуць Слуцк і зьбірацца ў Семежаве. Там за пару дзён сабралася каля 10.000 чалавек і з іх быў створаны першы Беларускі Слуцкі полк пад камандаваньнем палкоўніка Гаўрыловіча. Адначсна ў тым-жа Семежаве пераважна з грозаўскае моладзі ўтворана другі Беларускі Грозаўскі полк пад камандаваньнем капітана Семянюка. З іх утворана першую Слуцкую Брыгаду, камандзірам якое быў назначаны Павал Чайка. Беларускія партызанскія адзьдзелы, якія ўжо дзейічалі супраць бальшавікоў у Случчыне, так-жа далучыліся да тае брыгады. Найбольшы адзьдзел быў грозаўскіх партызанаў, яны далучыліся да брыгады каля вёскі Невязцы.

Лучнасьць з іншымі беларускімі вайсковымі цэнтрамі ў той час была вельмі ўтруднена, але ўсё-ж яна была. У Менск хадзіла сувязная жанчына. Яна шчасьліва прайшла туды і назад праз два фронты і прынесла паведамленьне, што кіраваць ваеннаю акцыяю з Менску немагчыма і што Менск чакае падзеяў на мяйсцох. З Гродна, дзе па дарозе ў Лодзь гасьцяваў капітае Якубецкі, беларускія жанчыны прыслалі сьцяг для слкччакоў з прыгожа вышытаю Пагоняю і напісам: "Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына". З Лодзі, хоць і з вялікім апазьненьнем і вялікімі цяжкасьцямі, прыбыло каля дзесятка афіцэраў, але нажаль у большасьці гэта былі людзі бязідэйныя. Як пачаліся баі, з іх асталося толькі трох, іншыя здэзэртыравалі. Гэнэрал Станіслаў Булак-Балаховіч, адступаючы з-пад Мазыра пад націскам бальшавікоў, быў выказаў намер далучыцца да случчакоў, але ягоную прапанову адхілена, каб не кампраміатаваць сябе лучнасьцю з марадзёрамі. Пастаноўлена толькі прыймаць з ягонае арміі паасобных афіцэраў і жаўнераў у індывідуальным парадку.

Найбольш слабым мейсцам у Слуцкай брыгадзе была нястача аружжа. Таму было пастаноўлена здабываць аружжа ў бальшавікоў раптоўнымі акружаючымі нападамі. У апошні мамэнт частка афіцэраў з адзьдзелаў Булак-Балаховіча, што перайшлі да случчакоў, дагаварылася з кіраўніцтвам тае арміі, каб перад тым, як яна пяройдзе на польскі бок, захаваць аружжа для случчакоў на беразу ракі Лань. І сапраўды ў апошні мамэнт случчакі знайшлі аружжа ў дамоўленым мейсцы, але ўжо было запозна, каб яго выкарыстаць.

Аднак ня гледзячы на ўсе гэтыя цяжкасьці, случчакі наважылі цьвёрда бараніць незалежнасьць Бацькаўшчыны і калі ўжо бальшавіцкія адзьдзелы былі ў Слуцку 27-га лістапада 1920 г. першая Слуцкая Брыгада пад гукі маршавай песьні:

"Мы выйдзем шчыльнымі радамі", пайшла ў няроўны крывавы бой. Аўтар тае песьні Макар Краўцоў быў так-жа ў радох случчакоў.

І сталая дзіўная неспадзеванка. - Бальшавіцкія адзьдзелы, ня гледзячы на іхную аграмадную колькасную і аружную перавагу, пачалі адступаць. Першы паважны бой адбыўся між Семежавам і Цімкавічамі, у якім случчакі разьбілі пераважаючыя колькасна адзьдзелы бальшавікоў, здабываючы шмат аружжа і амуніцыі. Поле бою было густа ўслана трупамі. Таксама і пад Вызнаю случчакі мелі паважную перамогу; была разьбіта паважная бальшавіцкая група, узята шмат ваеннага матэрыялу і палонных. Фронт расьцягнуўся на 120 кілямэтраў: Вызна Лютавічы, Садовічы, Бастранка, Капыль. І на гэтым фронце бальшавікі, маючы аграмадную перавагу, былі моцна занепакоены. Яны ўдзень наступалі, але на нач адступалі ад фронту, бо некалькі разоў іхныя адзьдзелы ў паасобных вёсках былі акружаны і зьнішчаны.

Нажаль у тым часе ў галоўным камандаваньні случчакоў стаўся вельмі прыкры выпадак: камандзір брыгады капітан П. Чайка перабег да бальшавікоў і перадаў ім усе сакрэты. Але на шчасьце агульны бадзёры ўздым случчакоў быў такі моцны, што нават ад такое здрады баёвы дух ня зьменшыўся. Камандзірам быў назначаны капітан Анцыповіч, а па ягоным адыходзе, капітан Антон Сокал-Кутылоўскі.

Перамогамі случчакоў было вельмі занепакоена бальшавіцкае вярхоўнае камандаваньне. У сьпешным парадку на слуцкі фронт была перакінута адна з мацнейшых дывізіяў чырвонае арміі - гэта 37-ая Омская стралковая дывізія, якая разьбіўшы Калчака ў Сібіры, знайходзілася на заходнім фронце і азначылася ў баёх з палякамі, займаючы цэнтральны адрэзак фронту. Цяпер яна была зьнятая з таго адрэзку і перакінена ў Случчыну. На дапамогу ёй былі прыданы з Койданава полк чэкістых ім. Дзяржынскага. І тады ў няроўным змаганьні разгарэліся цяжкія крывавыя баі каля вёсак: Быстранкі, Верамейчыкаў, Васільчыцаў, Чарнагубава, Дашнова, Лютавіч, Цімкавіч, Капыля, Вызны і інш. Найбольш прыкрым было для случчакоў, што ў гэтых баёх адступалі не так дзеля пераважаючае сілы, як дзеля нястачы амуніцыі, калі ня было нават чым страляць. Але нават і ў гэтых няроўных баёх случчакі няраз перамагалі, як гэта было каля Цімкавіч.

Аднак пад напорам пераважаючага колькасна і асабліва аружжам ворага случчакі мусілі адступаць і перад самым новым годам - 31-га сьнежня 1920 г. яны перайшлі раку Лань і былі разброены палякамі ды інтэрнаваны ў мястэчку Сіняўка,

а потым перанесены ў Драгагуск каля Беластоку ў былы нямецкі ваеннапалонны лягэр.

Але ня ўсе случчакі перайшлі праз раку Лань. Вялікая часьць з іх разыйшлася па лясох і стварыла адзьдзелы беларускіх партызанаў, якія прадаўжалі змаганьне аж да 1929 г., калі самазьліквідаваліся ў раёне Рудзенска. За час свайго існаваньня яны заўсёды былі пагрозаю для бальшавікоў. Калі хутка пасьля паўстаньня зьявіўся на Случчыне карны адзьдзел чэкістаў на чале з камісарам Цыганковым, дык партызаны зьнішчылі іх усіх каля Мікалаеўскіх хутароў Царкоўскае воласьці.

Паводля афіцыяльных бальшавіцкіх паведамленьняў вясною 1921 г. у Менскай губэрні налічвалася каля "1000 бандытаў"- так яны называлі беларускіх партызанаў. А летам таго-ж году іхняя колькасьць патроілася.(М.Баравы. Па крывавых сьлядох. с.38. Менск 1937).

## СПЫНІЛІ ЗМАГАНЬНЕ, АЛЕ НЕ ПАДДАЛІСЯ

Калі на Беларусі замацавалася савецкая ўлада, дык было нямала супрацьбальшавіцкіх выступленьняў і паўстаньняў, але яны пераважна мелі абмежаваны лякальны характар і звычайна былі кароткатрывалымі. А слуцкі ваенны чын гэта была сапраўдная вайна беларусаў супраць расейскага імпэрыялізму. Ня маючы ні адкуль ніякае помачы ў абліччы шматкротна перавышаючага ворага случчакі адважна змагаліся 5 тыдняў, дэманструючы перад усім сьветам сваю бязьмежную любоў да Бацькаўшчыны і непахіснае жаданьне здабыць незалежнасьць. Таму зусім зразумела, што падчас першае Беларускае Нацыянальна-палітычнае Нарады ў Празе 25-28 верасьня 1921 г., скліканае Радаю БНР, між іншымі справамі была так-жа прынята рэзалюцыя, у якой гаварылася, што найяскравейшым мамэнтам у чатырохгадовым змаганьні беларускага народу за незалежнасьць зьяўляецца Слуцкае Паўстаньне, падчас якога беларусы змагаліся пад лёзунгам:"ні польскіх паноў, ні маскоўскіх камуністаў". Калі прысутны на нарадзе др.Паўлюкевіч пратэставаў супраць першае часткі лёзунгу, дык ягоны пратэст быў з абурэньнем адкінуты. Прынагадна варта зацеміць, што др.Паўлюкевіч, працуючы ў польскай конрразьведцы, быў адначасна агентам савецкае контрразьведкі і за гэта ў 1928 г. польскі вайсковы суд засудзіў яго на 12 гадоў катаргі. Успамінаючы сьветлыя асобы нашых змагароў за лепшую долю Бацькаўшчыны, нельга так-жа забывацца, што на нашым вызвольным шляху зьяўляліся так-жа ўпоперак дарогі цёмныя асобы здраднікаў. Ворагі з усходу і захаду і намагаліся і намагаюцца ня толькі здушваць

фізычна беларускі вызвольны рух, але так-жа раскладаць яго маральна знутра. І таму тымбольшая заслуга для змагароў, якія перамагаюць усе гэтыя перашкоды.

Бальшавіком удалося здушыць фізычна збройнае выступленьне случчакоў, аднак маральна перамаглі случчакі. Яны не падпісалі ніякага акту аб спыненьні змаганьня, не пайшлі на ніякія ўступкі, таму слуцкі ваенны чын азначаецца з году ў год, дзе толькі ёсьць да гэтага магчымасьць, каб засьведчыць перад усім сьветам, што беларускі народ не пакінуў і не пакіне змагацца з акупантамі, пакуль не асягне поўнае незалежнасьці свае Бацькаўшчыны ў яе этнаграфічных межах. Вайна на слуцкім фронце спынена толькі часова; полымя змаганьня толькі часова прысыпана, але яно тлее ў сэрцах сыноў і дачок беларускага народу. Вось таму і баяцца яго нашы сучасныя акупанты. Вось таму яны нават змусілі калішняга камандзіра Слуцкае брыгады кап. Сокал-Кутылоўскага заявіць у газэце "Голас Радзімы", што быццам у 1920 г. ніякага слуцкага паўстаньня і вайны ня было. Аднак у той-жа заяве не змаглі выдумаць ніякага апраўданьня, навошта тады была сабралася цэлая брыгада случчакоў і чаму яны ня прысталі да бальшавікоў?

## ЗНАЧЭНЬНЕ СЛУЦКАГА ЎЗДЫМУ

Асаблівае значэньне Слуцкага збройнага выступленьне супраць аднаго з акупантаў ёсьць у тым, што яно сталася сымбалем беларускага вызвольнага змаганьня, якое раз запачаткаванае, ня спыняецца перад ніякімі перашкодамі і сьведчыць перад усім сьветам, што беларускі народ не пакіне змагацца за сваю незалежнасьць, аж пакуль яе не асягне. У гэтым змаганьні ахвяры не адстрашваюць, але яшчэ мацуюць вытрываласьць і гартуюць сілы ды збольшваюць любоў да роднага краю.

Паэты, якія маюць асаблівы дар вычуць і выказаць найглыбейшыя пачуцьці народу, кажуць вось што: Разам з іншымі дарамі, кажа Ларыса Геніюш, якія даў нам Бог, Ён нам

у сэрца даў агонь пякучы
каханьня да зямлі дзядоў.
І даў загад нам добры Бог,
каб кожны моцнаю рукою
араў загон, ды сеяў волю
і родную зямлю сьцярог.

Верныя гэтаму загаду ўжо ня толькі мужчыны, але і жанчыны і дзяўчаты. У рашучых мамэнтах, як піша Генію, яны ня

плачуць, а заяўляюць:

Калі цябе, мілы, краіна пакліча
за родны змагацца парог,
то суму ня будзе ў мяне на абліччы
і страху ня будзе ў грудзёх.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ты пойдзеш у бой, я плуг накірую,
каня накармлю, напаю, -
І так абаронім, засеем, збудуем
Беларусь дарагую сваю.

Гэтыя прыгожыя радкі паэткі быццам жыўцом узятыя з Случчыны I920 году. Шмат случчакоў тады злажыла сваё маладое жыцьцё за сваю дарагую Бацькаўшчыну, але ня было ні лямантаў, ні галошаньняў. Яны быццам той сымбалічны Лявон, аб якім гаворыць Янка Купала ў паэме "На папасе", зварухнуўшыся, як вада, як агонь і запеўшы песьні свае разудалыя,

галаву у баю, даў за праўду сваю.

І ляжаць яны, дрэмлюць у нязнаных магілах. Не ў аднаго з іх на грудзёх вырас клён,

І як вецер па сьвеце расходзіцца,
Шуміць шумна той клён;
Яшчэ ўстане Лявон;
Гэй, Лявоны у нас не пазводзяцца!

Таму слуцкае збройнае выступленьне супраць шматкротна пераважаючае варожае сілы ёсьць зарукаю таго, што гэтае змаганьне давядзе да таго, што раней ці пазьней, але напэўна прыйдзе час, калі

К свабодзе, роўнасьці і знаньню
Мы працярэбім сабе сьлед.
І будзе ўнукаў панаваньне,
Там, дзе сягоньня плача дзед.

ВЫКАРЫСТАНАЯ БІБЛІЯГРАФІЯ

I. Астроўскі Р., Трыццаць шэсьць год таму і сёньня. "Аб'яднаньне" Нр.8(66).Лёндан лістапад I956.
2. Астроўскі Р., Слуцкае паўстаньне на фоне барацьбы Беларускага Народу за сваю дзяржаўную незалежнасьць. "Беларускае Слова"Нр.5(37) сьнежань I957.
3. Баравы М., Па крывавых сьлядох. Менск I937.
4. Дзяржаўным шляхам. З нагоды I5-ых угодкаў Слуцкага Паўстаньня. "Золак" Нр.I(6), Вільня I935.
5. Захарка В., Галоўные момэнты беларускага руху. (ратаратар), Прага I926.
6. Змагар Алесь, Цыганкоў зьнішчаны. "Бацькаўшчына" Нр.47-49(I26-I27) Мюнхэн 30.XI.I952.
7. К - а, Слуцкае Паўстаньне. "Раніца", Нр.49-50(I6I-I62) Бэрлін 26.XII.I943.
8. Каранеўскі Язэп, Каб жыла Бацькаўшчына. "Бацькаўшчына" Нр.47-48(I26-I27) Мюнхэн 30.XI.I952.
9. Кушаль Ф., Ад Менску да Лодзі. "Беларус"Нр.I8(24). Нью Ёрк 25.XII.I952.
I0. Кушаль Ф.,Веліч Слуцкага Збройнага Чыну. "Беларус" Нр.2I(45), Нью Ёрк 28.XI.I953.
II. Найдзюк Я.,Беларусь учора і сяньня.(Слуцкае паўстаньне. стар.I79-I83), Менск I943.
I2. (Русак В.),Голас б.старшыні Зьезду Случчыны аб Слуцкім Паўстаньні. "Золак" Нр.I(7), Вільня I936.
I3. Р(ыдлеўскі)Лявон, Гэтак было. "Бацькаўшчына"Нр.47-48(I26).
I4. Слуцкае Паўстаньне."Беларуская Крыніца"Нр.38. Вільня 29.XI.I93I.
I5. Сокал-Кутылоўскі А.,Жыцьцё пераконвае. "Голас радзімы" Нр.82(467), Мінск кастрычнік I960.
I6. Сокал-Кутылоўскі А.,Легенда і рэчаіснасьць. Зборнік артыкулаў "У імя праўды" с.I4-24.Мінск I959.
I7. Сыманчук, Слуцкае Паўстаньне."Беларускі Голас" Нр.3 Торонто I953.
I8. Удзельнік Слуцкага Паўстаньня, Памяці адважных беларускіх гэрояў."Аб'еднаньне" Нр.3(52) Лёндан I954.